# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 50 (1033) ГОД XX 14 СНЕЖНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.

## VII З'ЕЗД ПАРП

**У дні, калі закрываем гэты нумар, у Варшаве адбываецца VII З'езд нашай партыі. На здымку, які мы атрымалі ў апошнюю хвіліну, вы бачыце ўрачысты момант адкрыцця З'езду. Справа налева: Эдвард Герэк, Леанід Брэжнеў, Тодар Жыўкоў і Янаш Кадар.**



## КОНКУРС „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76" для вучняў

Кураторыя асветы і выхавання ў Беластоку, ГП БГКТ, рэдакцыя „Нівы" і зборныя гмінныя школы аб'явілі конкурс, які сваёй мэтай ставіць стварэнне шырэйшых магчымасцей для развіцця і паглыблення асабістых зацікаўленняў вучняў, развіццё сярод школьнай моладзі вакальных здольнасцей, прывучаць вучняў да самастойнай працы над песнямі і выступлення перад слухачамі, узбуджаць зацікаўленне рэгіянальнай творчасцю.

**У конкурсе „Беларуская песня — 76" для школьнікаў могуць прымаць удзел салісты і вакальныя групы з асяроддзя ад пятага класа ўзвыш у пачатковых школах і ўсіх класах ліцэяў.** Конкурс будзе праходзіць на трох этапах: школьных, гмінных і фінальных аглядах. У школьных аглядах можа прымаць удзел неабмежаваная колькасць моладзі, а заняўшыя першыя месцы прыступяць да гмінных аглядаў, пасля якіх самых лепшых выканаўцаў камісія накіруе на цэнтральны агляд. Удзельнікі конкурсу на ўсіх этапах абавязаны выступіць з дзвюма, па іх уласнаму выбару, песнямі, аднак камісія не будзе ацэньваць тых песень, з якімі той самы ўдзельнік выступаў ужо на мінулагоднім конкурсе. Камісія будзе ацэньваць паводле вартасці рэпертуару, выканаўства, якасці голасу і агульнага мастацкага ўзроўню.

Для пераможцаў школьных і гмінных элімінацый рэчавыя ўзнагароды падрыхтуюць дырэкцыі гмінных зборных школ, яны таксама звернуць кошты падарожжа за выезды ўдзельнікаў на гмінныя і цэнтральныя элімінацыі. Пераможцам на цэнтральных элімінацыях арганізатары конкурсу прадбачваюць наступныя рэчавыя **ўзнагароды:** для салістаў за I месца адна ўзнагарода вартасцю 300 зл., за II месца дзве ўзнагароды вартасцю па 200 зл., за III месца таксама дзве ўзнагароды вартасцю па 150 зл; для груп, выканаўцаў: па адной узнагародзе за 1 месца вартасцю ў 500 зл., за II месца — 400 зл., за III месца — 300 зл. Апрача гэтага, для ўдзельнікаў абедзвюх катэгорый выканаўцаў прадбачаны 10 узнагарод вартасцю па 100 зл.

**У конкурсе „Беларуская песня — 76" могуць прымаць удзел вучні ўсіх школ, дзе выступае навучанне беларускай мовы. Да падрыхтоўкі ў конкурсе дырэктары школ абавяжуць настаўнікаў беларускай мовы і настаўнікаў музычнага выхавання.**

**Школьныя элімінацыі павінны адбыцца да 31 сакавіка 1976 г., гмінныя — да 20 красавіка 1976 г., а цэнтральныя — да 20 мая 1976 г.** Пры гэтым дырэкцыя зборных гмінных школ абавязана выслаць спісак выбраных на цэнтральны агляд удзельнікаў у Кураторыю асветы і выхавання найпазней да 30 красавіка 1976 г.

Арганізатары заахвочваюць настаўнікаў і моладзь да належнай падрыхтоўкі і масавага ўдзелу ў конкурсе „Беларуская песня — 76".

Маладым песнярам жадаем поспехаў і многа задавальнення!

## МЫ-ДЛЯ СЯБЕ

Старая гэта праўда: як пасцелеш, так і выспішся. Як папрацуеш, так і маеш.

Вось менавіта: як мы працавалі ў апошнія гады? Якія вынікі гэтай працы? Што змянілася ў нашым жыцці? Як мы зараз жывем?

Каб атрымаць адказ на гэтыя пытанні, выбраўся я ў аб'езд па нашай роднай Беласточчыне. Найперш завітаў у Дубічы Царкоўныя, дзе начальнік гміны Мікалай Чыквін сказаў мне:

— Перш за ўсё ў апошніх гадах вельмі павысілася ў нас сельскагаспадарчая культура. Найбольш эфектыўна праяўляецца гэта ў пашырэнні жывёлагадоўлі і ўраджайнасці палёў.

У вёсках, якія цяпер складаюць нашу гміну, нейкіх пяць год таму назад не было аніводнага па-сучаснаму абсталяванага будынка для гадоўлі свіней ці кароў, а цяпер — ніхто ўжо інакш не хоча будаваць. Вось Рыгор Троц з Карыціскаў пабудаваў абору на 100 кароў, падобную абору ў Чэхах Арлянскіх пабудаваў Несцярук, а ў Войнаўцы — Барысюк.

Даўней, гэта значыць нейкіх пяць год таму назад, не сустракаў я ў нашым наваколлі вясковых жылых будынкаў з так званымі „выгодамі", а цяпер, калі ласка, і вада, і цэнтральнае ацяпленне, і каналізацыя, і ванныя...

Голас прадстаўнікоў іншых гмін. Міхась Зубрыцкі — сакратар гміннага камітэта партыі ў Нарве:

— У выніку павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі значна павысіўся дабрабыт жыхароў нашай гміны. Найбольш наглядна ўбачыць гэта можна ў крамах. Даўней фабрычная мэбля стаяла ў нас цэлымі месяцамі і рэдка хто яе купляў, а цяпер — толькі давай, з рук вырываюць. Таксама і сельскагаспадарчыя машыны, ад сеўнікаў і да трактараў. Быў час, што мы нагаварвалі сялян, каб куплялі, напрыклад, сеўнікі і снопавязалкі. Цяпер яны ідуць да нас з прэтэнзіямі, чаму няма ў продажы гэтых машын?

Гайнаўка, начальнік гміны Ежы Буйноўскі:

— Толькі ў гэтым 1975 годзе пабудавалі мы грамадскім чынам 11 кіламетраў дарог. Найбольш шчыра папрацавалі жыхары вёсак: Галяковай Шыі, Рэпіскаў, Навакорніна, Барка, Хітрай У Новым Корніне таксама грамадскім чынам сяляне пабудавалі супрацьпажарную рамізу, у якой адначасова памяшчаецца і вясковая святліца. Каштавала яна паўмільёна злотых, з чаго палавіну склалі жыхары вёскі. Падобным чынам будавалі мы святліцу ў Махнатым і клуб гаспадара ў Новым Беразове.

— Карыстаючыся вопытам перадавых вёсак, пачалі мы ствараць **групы грамадзянскай актыўнасці,** у саставе якіх знаходзяцца найбольш дзейсныя, непаседлівыя і энергічныя члены вясковых партыйных і маладзёжных арганізацый, гурткоў вясковых гаспадынь, настаўнікі і ўсе іншыя, хто хоча працаваць для пераўтварэнняў у нашых вёсках.

Сакратар гміннага камітэта партыі ў Орлі **Яўген Леўчук:**

— У мінулых пяці гадах у нашай гміне мы пабудавалі: ветэрынарную лячэбніцу, агранамоўку, гандлёвы павільён, склад для збожжа і для ўгнаенняў, пункт скупкі жывёлы, вясковыя святліцы ў Міклашах, Чэхах Забалотных, пажарныя рамізы ў Грыгараўцах і Малінніках, пункты скупкі малака ў Кашалях і Грыгараўцах.

Сямяцічы, сакратар гміннага ўпраўлення:

— У пераменах, што адбыліся ў нашай гміне, найлягчэй і найхутчэй можна пераканацца, калі паехаць па вёсках. Ужо рэдка дзе можна зараз убачыць саламяную страху, а новыя, прасторныя, па-сучаснаму абсталяваныя дамы растуць у нас, як грыбы пасля дажджу. Сціральныя машыны, халадзільнікі, радыёпрыёмнікі, тэлевізары, а цяпер і тэлевізары для каляровых перадач — усё гэта ўжо не выклікае ніякага здзіўлення ў нашых вёсках, бо нашы сяляне проста маюць за што і будаваць, і купляць самыя дарагія рэчы...

Што ж тут дадаць? Бадай, толькі тое, што можна было б знайсці яшчэ дзесяткі іншых прыкладаў, якія пацвердзілі б ужо сказанае. Проста людзі паверылі, што варта старацца, варта добра працаваць, бо ўсе мы разам працуем для сябе.

**Віктар Рудчык**



*Новая Гайнаўка.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

У Панятовічах, дзе палякі гавораць па-беларуску • У чалавека лесу • Ігар Лучонак • Спявае Гарадок • Радасць бельскім вучням і школам • Швайпольт Фіёль • Весткі з Белавежы, Шудзялава, Гайнаўкі, Арэшкава, Беластока, Дубіч Асочных • Гараскоп • Песня „Kiedy dzień za nocą goni".




## Ганаровы кубак — ФРАНЦЫІ

Калі б яшчэ два гады таму назад сказалі, што кубак „За бяспеку руху“ нам давядзецца ўручаць французу, мы параілі б таму, хто гэта скажа, звярнуцца да ўрача, — заявіў, выступаючы ў палаце лордаў, англійскі міністр транспарту Фрэдэрык Малі.

Сапраўды, па ўсёй Еўропе пра французскіх вадзіцеляў ішла нядобрая слава. Пра іх гаварылі, як пра ліхачоў на аўтастрадах, як пра людзей, для якіх парушыць якое-небудзь правіла дарожнага руху, а то і некалькі адразу, — не правіннасць, а нават штосьці накшталт „доблесці“. Усё гэта прыводзіла да таго, што Францыя доўгія гады трывала ўтрымлівала першае месца па колькасці аўтамабільных аварый сярод краін Заходняй і Паўночнай Еўропы.

У пачатку 1973 года па французскаму тэлебачанню быў паказаны незвычайны фільм. На экране з'явіўся рэальна існуючы ў Францыі горад Мазаме. На ўсіх яго вуліцах і плошчах нерухома ляжалі людзі. Жыхары Мазаме — а іх 16.800 чалавек — па просьбе аўтараў фільма, згадзіліся на дзесяць мінут (на час здымак) паказаць, як гэта многа 16 тысяч 800 чалавек, якія ляжаць на зямлі. У горадзе Мазаме ў той час было роўна столькі жыхароў, колькі загінула людзей на французскіх аўтастрадах у 1972 годзе...

Тэлефільм зрабіў уражанне, але галоўнае, падзейнічалі меры, прынятыя ўрадам Францыі ў нацыянальных маштабах. З мэтай эканоміі гаручага і для барацьбы з каласальнай колькасцю чалавечых ахвяр улады ўвялі абмежаванні скарасцей: на аўтастрадах — да 130 кіламетраў у гадзіну, на звычайных аўтамабільных дарогах — да 90. У французскіх гарадах скорасць вулічнага руху не павінна перавышаць 60 і толькі на асобных участках — 80-ці кіламетраў у гадзіну. З увядзеннем такіх абмежаванняў колькасць вялікіх аварый скарацілася.

Зменшыць колькасць смерцяў і раненняў на дарогах дапамагло і ўвядзенне рамянёў бяспекі, якія з 1 студзеня 1975 года сталі абавязковымі для ўсіх вадзіцеляў і пасажыраў, якія сядзяць з імі побач, прычым на любых дарогах за горадам. Цяпер і на гарадскіх скрыжаваннях з'явіліся вялікія маляўнічыя плакаты, якія заклікаюць карыстацца рамянямі бяспекі і ў межах горада. Пад імі, як правіла, стаіць подпіс — „Арганізацыя па бяспецы руху“. У многім дзякуючы намаганням менавіта гэтай створанай пры ўрадзе арганізацыі і быў праведзены закон аб рамянях бяспекі, аб абмежаванні скорасці на дарогах, прыняты многія меры па паляпшэнню шырэйшых дарог у Францыі.

А вынік? Вынік у наяўнасці. У 1974 годзе ў аўтамабільных катастрофах загінула 13.500 французаў — на дзве з палавінай тысячы менш, чым у папярэднім. Бясспрэчна, гіне яшчэ вельмі многа людзей, дзесяткі тысяч налічваецца параненых. Кожны панядзелак па радыё па-ранейшаму перадаюцца трывожныя, як з фронту, зводкі аб новых сотнях ахвяр апошняга ўікенда. Аднак пэўны поспех у барацьбе за спыненне „бойкі на дарогах“ ужо дасягнут. І заслуга ў гэтым „Арганізацыі па бяспецы руху“ і яе кіраўніка — Крысціяна Жэрандо.

Жэрандо часта можна ўбачыць на тэлеэкране, пачуць па радыё, прачытаць яго артыкулы ў газетах і часопісах. Ён пераконвае, спрачаецца, праводзіць графікі, вынікі апытання грамадскай думкі, апісанні няшчасных выпадкаў, расказвае аб іх прычынах. Калі Крысціяна Жэрандо выбралі старшынёй камітэта па бяспецы руху краін — членаў „Агульнага рынку“, ён дабіўся таго, каб і іншыя краіны ЭЕС, акрамя Францыі, канчаткова ўвялі ў сябе абмежаванне скорасці на дарогах і абавязковае прымяненне вадзіцелямі рамянёў бяспекі.

Вось і стаў Жэрандо першым у гісторыі французам, якому англійскі аўтадарожны часопіс „Трэфік інджынірынг энд контрал“ уручыў у гэтым годзе свой ганаровы кубак „За бяспеку руху“.

**Е. Бабенка**

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

## ГАЛОЎНЫ ХІРУРГ ГОРАДА

Яму цяпер пяцьдзесят гадоў. Ён — загадчык кафедры анкалогіі Мінскага медыцынскага інстытута і адначасова працуе галоўным хірургам горада, з'яўляецца членам прэзідыума праўлення таварыства хірургаў БССР і таварыства анколагаў Беларусі. На конце Яўгенія Дзямідчыка звыш шасці тысяч аперацый. Пяцьдзесят дзве навуковыя работы — вынік яго няспыннай творчай працы, шматгадовага вопыту, доўгіх пошукаў і даследаванняў. Цяпер Яўген Дзямідчык працуе над кніжкай „Злаякасныя пухліны шчытападобнай залозы“. Менавіта па гэтай праблеме ён мае найбольш клінічнага матэрыялу, паколькі большасць хворых з такой паталогіяй праходзяць лячэнне ў анкалагічным корпусе той бальніцы, дзе ён працуе.

Чаму Яўген Дзямідчык стаў медыкам? Адкідаючы ў думках сваё далёкае мінулае, Яўген Дзямідчык знаходзіць там тыя жыватворчыя крыніцы, якія хутчэй за ўсё прывілі яму замілаванне да самай гуманнай прафесіі на зямлі. У гады вайны Яўген удосталь нагледзеўся на кроў і цярпенні людзей, якіх лячылі людзі ў белых халатах. Тады пашана да дактароў глыбока запала ў сэрца маладога воіна...

Вярнуўшыся з фронту, Яўген Дзямідчык паступіў на работу, а вечарамі стаў вучыцца ў школе рабочай моладзі, якую закончыў з сярэбраным медалем. І тут узнікла пытанне: што рабіць далей? Імкненне да ведаў было вялікае. Але куды пайсці вучыцца? Якую выбраць прафесію? І Яўген Дзямідчык здаў дакументы ў Мінскі медыцынскі.

Ішоў 1951 год. А яшчэ праз шэсць гадоў Яўген трымаў у руках залаты дыплом выдатніка. З Мінска шлях маладога лекара ішоў у Горкі Магілёўскай вобласці, у раённую бальніцу. Тут і адбылося станаўленне Дзямідчыка-хірурга. Нязвыклая чуласць, прастата ў адносінах з людзьмі, набытыя веды, дакладна праверany скальпель — усё гэта дапамагло Яўгену ў яго адказнай і шматграннай працы. І вось прыходзіць аўтарытэт. Майстэрства, творчыя



*Я. Дзямідчык у сваім рабочым кабінеце.*

пошукі, імкненне сёння дабіцца большага, чым учора, заўтра — большага, чым сёння, былі заўважаны. Маладога хірурга запрашаюць у абласную бальніцу, дзе ён потым становіцца загадчыкам хірургічнага аддзялення. Тады ж Дзямідчык паступае ў завочную аспірантуру па хірургіі.

З розных шматлікіх хірургічных напрамкаў для сваіх навуковых даследаў Дзямідчык выбраў складаную і ўсё яшчэ праблематычную, скрываючую ў сабе нямала няяснасцей і пытанняў галіну — хірургію рака стрававода і страўніка. Было ўсё: і горы спецыялістычнай літаратуры, і клінічныя пошукі, і размовы з калегамі, і цяжкія роздумы, была праца, праца і праца. У выніку гэтага — бліскучая абарона кандыдацкай дысертацыі ў 1964 годзе. І адразу ж запрашэнне перайсці на работу ў навукова-даследчы інстытут анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Бараўлянах каля Мінска. Запрашэнне было прынята. Новая вышыня, новыя гарызонты, вялікія магчымасці праявіць сябе. А Дзямідчык такі чалавек, які не можа задаволіцца дасягнутым. І калі паявілася вакансія на кафедры шпітальнай хірургіі ў Мінскім медыцынскім інстытуце, Дзямідчык адразу ж пераходзіць туды.

Гэта ўжо 1966 год. Пройдзе яшчэ восем гадоў, і Я. Дзямідчык стане загадчыкам кафедры анкалогіі, зноў створанай у інстытуце. Да гэтага часу ён будзе ўжо адным з вядучых беларускіх хірургаў-анколагаў.

Апошнія гады Я. Дзямідчыка прысвечаны лячэнню хворых злаякаснымі пухлінамі розных лакалізацый. Анкалогія — цяжкі раздзел медыцыны, дзе многа яшчэ ўяўляецца туманным, існуюць белыя плямы, а спозненая дыягностыка ўскладняе працэс лячэння. Скажам проста, што сюды ў асноўным ідуць энтузіясты. Разумеючы гэта, Яўген Дзямідчык, як кіраўнік кафедры медінстытута, стараецца запаліць у душы сваіх студэнтаў творчую іскру, пастаянна рыхтуе маладую змену.

Як галоўны хірург горада Я. Дзямідчык удзельнічае ў кансіліумах, садзейнічае найбольш рацыянальнай арганізацыі спецыялізаванай хірургічнай дапамогі ў стацыянарах і паліклініках Мінска.

Яго жыццё — гарэнне. Ён цалкам аддае сябе справе, якой служыць.

**Аляксандр Харкевіч**
фота **В. Казлова**




**Piątek 12.XII** — 12.35 Moskwa — Warszawa. 14.15 Film fab. 17.00 Koncert. 17.25 Film fab. 19.30 Koncert.

**Sobota 13.XII** — 12.20 Film fab. 14.50 Film anim. 15.00 W świecie zwierz. 16.25 Śpiewa Anna German. 17.55 Spektakl. 19.30 Pr. estrad. 20.45 P. ręczna. Mistrzostwa Świata. Finał.

**Niedziela 14.XII** — 12.00 Film fab. 13.35 Tenis stołowy. ZSRR — Czechosł. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Pr. muz. 16.15 Film anim. 17.00 Benefis. 18.00 Klub film. 19.30 Na 200-lecie Teatru Wielkiego.




**Sobota 13.XII.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 8.30 Film fab. 10.00 Dla najmł. (kl I—III) Czerw., żółte, ziel. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. W Ameryce Środ. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hist. 15.30 Red. Szk. zap. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Sport dla Ciebie. 16.45 Za kierownicą. 17.05 Sobota Mł. 18.05 Rafineria — film dok. 18.20 Co kto lubi. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.25 Teatr Komedii: G. Scarnicci i R. Tarabusi — Zawodowy gość. 21.45 Róże Montreux. 22.30 Dzien. 23.00 Sport. 23.15 Opow. Star. Pana.

**Niedziela 14.XII.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hist. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.15 Antena. 10.35 Przygody Robinsona Crusoe — film fab. radz. 12.05 Lekt. Pegaza. 12.25 Dzien. 12.55 Dla dzieci. 13.25 Tydzień. 13.50 Drogi i bezdroża. 14.50 Los. Duż. Lot. 15.05 Ach, ten łobuz — kom. film. wł.-fr. 16.35 Refl. ob. 16.50 Operowo qui pro quo. 17.35 Sport. 18.15 Tele-Echo. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 21.15 Sport. 21.45 Pr. rozr. 23.00 Rec. pios. M. Kruga (NRD).

**Poniedziałek 15.XII.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.45 Chem. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: J. Słowacki — Horsztyński. 21.55 Dzien. 22.10 Między nami rodzicami. 22.40 Sport.

**Wtorek 16.XII.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 8.10 Rodzina Whiteoaków — film ser. kanad. 9.00 Dla najmł. (kl. I) Mat. 10.00 (kl. I—III) Czerw., ziel. żółte. 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wych. plast. Plakat. 12.55 Dla szkół średn. Rodzina współcz. On i ona. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 PŁOCK. 17.25 Nie tylko dla pań. 17.50 Fakty, op., hip. 18.25 Stud. Tel. Mł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Dyrektorzy — film ser. 21.45 Sport. 22.35 Dzien. 22.55 Opera.

**Środa 17.XII.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 8.40 Dyrektorzy — film ser. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Hist. Rok 1863. 11.05 (kl. VIII) Fiz. Magnesy, elektromag. i pole mag. 12.45 Tech. Rol. Mech. rol. 13.25 Upr. rośl. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.50 Patrol. 18.10 List bez aureoli. 18.35 Interstudio. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Dyrektorzy — film ser. 21.45 Listy i polityka. 22.15 Dzien. 22.35 Spor.

**Czwartek 17.XII.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Mech. rol. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. W okresie zagroż. i napadu. 9.30 Film fab. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. Staff — Leśmian — Tuwim. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.10 Zesp. Gruz. „Orera”. 18.30 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Dyrektorzy — film. ser. 21.50 Stud. z Pegazem. 22.50 Dzien. 23.10 Sport.

**Piątek 18.XII.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 8.30 Film fab. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geogr. Grupy gór. Sudetów. 11.05 Dla najmł. (kl. II) W naszych lasach. 12.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Dunaj, jako droga międzynar. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Bot. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Zrób to sam. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Mała Encykl. Zwierz. — film ser fr. 18.50 Sezam. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Dyrektorzy — film ser. 21.40 Panorama. 22.25 Sport. 22.55 Dzien.




**Białowieża** Kamo ostatnia misja — radz. 16—17. Polska gola — pol. 18—19. Rajdowa sympatia — czes. 20—21.
**Czeremcha** Dramat zazdrości — wł. 16—17. Jego wysokość towarzysz książę — NRD 20—21.
**Czyże** Miłosne kłopoty — radz. Jarzębina czerwona — pol. 17—21.
**Dubicze Cerkiewne** Przez pustynię — mek. Polonez Ogińskiego — radz. 17—21.
**Gródek** Grzech Antoniego Grudy — pol. 20—21.
**Kleszczele** Tylko wtedy gdy się śmieję — ang. 16—17. Płonąca tajga — radz. 18—19. Dzieci lwicy z buszu — ang. 20—21.
**Michałowo** Doktor Popual — fr. 16—17. Kot — fr. 18—19. Nie ma mocnych — pol. 20—21.
**Mielnik** Wspaniały interes — fr. 17. Nokaut — jug. 20—21.
**Milejczyce** Woda życia — radz. 16—17. Wielka noc i wielki dzień — czes. 18—19. Znikąd do nikąd — pol. 20—21.
**Narew** Noc na Karlsztejnie — czes. Awans — pol. 17—21.
**Narewka** Miasto w czerni — węg. Zapamiętaj imię swoje — pol. 17—21.
**Nurzec** Zabójstwo inżyniera Czarta — czes. 16—17. Był sobie drozd — radz. 18—19. Dzieje grzechu — pol. 20—21.
**Orla** Grzech Katarzyny — czes. Koniec wakacji — pol. 17—21.
**Rajsk** Dzielny szeryf Lucky Luke — fr. Najemnik — czes. 17—21.
**Suchowola** — Dzieje grzechu — pol. Kobieta z lancetem — radz. 17—21.


Танцоркі з бельскага белліцэя.


Выступае бельскі харавы калектыў „Васілёчкі“.

# НА КРЫЛАХ ПЕСНІ

16 лістапада гэтага года з нагоды „Нядзелі дружбы“, прысвечанай лепшаму пазнанню нашых усходніх замежных суседзяў, на сцэнах гмінных цэнтраў культуры ў Кляшчэлях і Мілейчыцах выступіў харавы калектыў „Васілёчкі“ з бельскага аддзела БГКТ у спалучэнні з маладзёжнай танцавальнай групай з бельскага белліцэя.

Бельскія „Васілёчкі“ на гэты раз выступілі з паўтарагадзіннай праграмай, якая склалася з народных задушэўных песень на беларускай, рускай, украінскай і польскай мовах. Дзявочая танцавальная група выступіла таксама з народнымі танцамі. Абодва канцэрты выклікалі вялікае зацікаўленне ў вясковым асяроддзі. Прысутнічала на іх больш чымсьці пяцьсот асоб. Асаблівым поспехам карысталіся прывабныя мелодыі беларускіх песень: „Беларусачка“, „Паляцелі ў вырай жураўлі“, „Мяцеліца“. Усе прагна іх слухалі і запаміналі словы. Выконваліся таксама простыя жартоўныя песні: „Пасылала баба дзеда“, „Як правёў мяне Цімох“, „Кума ж мая, кумушка“, „Біла жонка мужыка“, „Любоўныя частушкі“, „Баба Еўка, дзед Тамаш“ і іншыя. Яны і прыводзілі ў добры настрой публіку. Былі бурныя воплескі, было бісаванне. А выканаўцам вельмі была да спадобы гэтая жывая рэакцыя публікі. Пэўна, таму ўсе песні і танцы і выконваліся так жыва, захапляюча. Кожнае выступленне хору з любімымі песнямі было сапраўдным канцэртам цудоўных галасоў. Прысутныя, якія таксама маюць нядрэнныя галасы, маглі толькі ў душы пазайздросціць харыстам. Словам, абодва канцэрты „Васілёчкаў“ усім вельмі спадабаліся.


Кляшчэлеўскую публіку асабліва рассмяшыла жартоўная песня „Баба Еўка, дзед Тамаш“.

На заканчэнне падаем, што ў канцэрце выступаў 15-асабовы хор, салісты Аляксандр Раманюк і Вера Талвінская, у дуэтах Ананій Ясюк і Аляксандр Раманюк ды Вера Талвінская і Ананій Ясюк. Дырыжорам і акампаніятарам на акардэоне быў здольны музык, кіраўнік харавога калектыву Сяргей Лукашук.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**




## Стальная прадукцыя

Чыгуначнае прадпрыемства стальных канструкцый (КЗКС) у Старасельцах (адзін з раёнаў горада Беластока) — гэта нязвыклае прадпрыемства, прадукцыя якога робіцца выключна са сталі. Яно мае высокі ранг у нашай краіне, выконвае заказы вялікіх будоўляў. Вось, напрыклад, беластоцкі КЗКС выконваў стальны, арыгінальны мост 95-метровай вышыні для Цэнтральнай чыгуначнай магістралі і канструкцыі для чыгуначнай сеткі Рыбніцкай вугальнай акругі, стальныя канструкцыі для Паўночнага порту, Гданьскай рафінерыі, фабрыкі малалітражных самаходаў у Бельску Бялай і шмат іншых складаных канструкцый для вялікіх і важных будоўляў бягучай пяцігодкі.

Варшаўскі, толькі што аддадзены ў карыстанне Цэнтральны чыгуначны вакзал з'яўляецца адным з найбольш сучасных вакзалаў у Еўропе. Беластоцкі КЗКС выканаў для будовы гэтага вакзала 2 тыс. тон унікальных стальных канструкцый.

Гута „Катавіцы“ заказала ў гэтага прадпрыемства 125-тонны пад'ёмны кран.

Беластоцкае прадпрыемства стальных канструкцый вялікую дапамогу аказвае і будаўніцтву Беластоцкага ваяводства. У апошні час выканала яно стальныя канструкцыі для будуючагася таварнага дома ў горадзе Беластоку, для тартака ў Чорнай Беластоцкай і інш.

КЗКС славіцца таленавітымі зваршчыкамі, якія ўмела выкарыстоўваюць сучасную тэхніку. У бягучым годзе паказчык механізацыі прац дасягнуў 53%. Гэтае прадпрыемства, як рэдка якое, дынамічна развіваецца як у галіне колькасці прадукцыі, так і ў галіне павышэння якасці прадукцыі. Бягучы пяцігадовы план быў выкананы ў пачатку лістапада. (мх)




*М., сталяр з Бельска, хваліцца, што можа нават пяць дзён прасядзець у „Бяльчанцы“, нічога не робячы.* (м)




## АДРАЗУ ЎСЁ ТРЭБА ШУКАЦЬ

Доўга збіраўся я з духам, каб быць у сілах напісаць слова пра кніжку **„Я з вогненнай вёскі“**, створаную Янкам Брылем, Уладзімірам Калеснікам, Алесем Адамовічам. Спатрэбілася трохі прызабыць яе, супакоіцца. Выплакацца!

Лічбы заўсёды спакойныя і даюць халоднае ўяўленне.

*„З агульнай колькасці 9 200 беларускіх сёл і вёсак, разбураных і спаленых гітлераўцамі за гады Вялікай Айчыннай вайны, 4885 было знішчана карнікамі. Поўнасцю, з усімі жыхарамі, было знішчана 627... З часткай насельніцтва было знішчана 4 258 сёл і вёсак“.*

Кніжка, аб якой пішу, з'яўляецца кнігай смерцяў беларускіх людзей, пераказам жывых, што цудам уцалелі з тых тысяч вёсак, па якіх звоняць сёння векавечныя званы Хатыні, могільніка-помніка ваеннай Беларусі. Кожны трэці беларускі грамадзянін не перажыў гэтай вайны, самай жахлівай у гісторыі чалавецтва. Назавіце мне іншы народ, які пацярпеў больш!

Беларусь памірала не раз у сваю пакутную гісторыю.

Цяжка паўстрымацца ад некаторай прэтэнзіі, чаму гэта толькі цяпер з'явілася кніжка, у якой апісана забіванне Беларусі фашызмам? **„Я з вогненнай вёскі“** — блізкая нам, той самы лёс. Якія думкі ды адчуванні нараджаюцца ад яе?

Нельга спапяліць у чалавеку чалавечнасць, хіба што разам з ім... А хто гэта намагаўся на тое? Гітлераўцы, здавалася б, таксама ж людзі. Ды чалавекам быць, аказваецца, мала мець ягоны вонкавы выгляд, ягоную тэхніку быту. Патрэбна нешта беспараўнальна большае, тое, што адны завуць сэрцам, іншыя сумленнем, душою... А мо і таго яшчэ мала? Наўрад, ці існуе назва сутнасці чалавека, чалавечнасці.

Аб чалавеку сведчаць яго ўчынкі.

*„Бяруць дзіцёнка — расстрэльваюць.*
*— Вот завядзёш — гэтых не будзем страляць!..*
*А я знаю, што, як завяду — больш чужой крыві нап'юся, чым маёй разальюць. Я не павёў.“*

Здзіўляюць не столькі тыя, што выжылі і нават адбудавалі спаленае, колькі тыя, у кожнага з якіх на сумленні многа бязвіннай крыві ахвяр. Здзіўляюць? Не тое слова: кожны дзень мірнага, пасляваеннага, жыцця гэтых катаў а б р а ж а е мяне, нас, народы, чалавецтва!

*„...дзетачкі і матка выйшлі і селі на агародзе сваім і вот так ручачкамі прасіліся, парасстаўлялі, а ён іх вот так падрад страляе, страляе — усіх пастраляў...“*

Фашыст, бандыт, звер, усё гэта толькі частковае называнне той з'явы, што набрыняла пеклам у сэрцы Еўропы, недзе ў сонечнай Турынгіі ці сентыментальнай Баварыі.

Дзеля чаго людзі людзям падрыхтавалі гэтакі лёс? Дзеля свайго, нейкага ўласнага шчасця? Калі гэта праўда, дык само шчасце акампраметаванае навечна!

І жыць не хочацца... (*„Мамка мая! Я думала, цябе ўжо забілі, дык і я назад іду, каб і мяне забілі“*).

А хіба іначай адбывалася ў Паўднёным В'етнаме, у Бенгаліі, у Анголе, а зараз — у Чылі? Розніца ў маштабах, не болей!

Каб глыбей зразумець прычыны, што параджаюць тую ракавую пухліну, якая забівае чалавечнасць у чалавеку, здаецца, варта час ад часу задумацца і над сваімі, уласнымі, штодзённымі ўчынкамі. Яны, тыя драбніцы, з якіх безупынна будуецца цэлы наш свет, таксама многае дазваляць зразумець, калі розум па-людску неспакойны. Нічога, што зробіцца ад таго неяк сцішнавата...

**Сакрат Яновіч**

# КЛУБ-КАЗКА

Калі ў памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ на Сенатарскай запальваецца святло, на супрацьлеглым баку вуліцы затрымліваюцца прахожыя і ў захапленні аглядаюць фрагменты малюнкаў, што відаць праз вокны.

Аднак, сапраўды ашаламляючае ўражанне памяшканне аддзела робіць на тых, хто пераступіць яго парог. Адчыняючы размаляваныя на ўзор сярэдневякоўя дзверы, бачыш, што ў нішы, у поўны чалавечы рост, два сярэдневяковыя рыцары сцерагуць уваход у цудоўны казачны свет. На паўкруглай сцяне аграмадная панарама: легендарны гусляр Садко сышоў у падводнае царства, поўнае марскіх жывых істот і раслін. Побач яго на залатым троне рассеўся барадаты марскі цар у акружэнні чароўных німфаў, што выйшлі з казачнага палаца. Ва ўглыбленні, ля вакна, аграмадны залацісты самавар, намаляваны на сцяне, запрашае напіцца чаю з сапраўднага самавара, які актыўны дзеяч таварыства Хведар Галёнка прывёз з Масквы і перадаў у падарунак аддзелу.

Са столі, размаляванай у больш сучасным стылі, з блакітнага неба ўсміхаецца пунсовае сонейка. Па-суседску з ім, на цямнейшым фоне неба з зоркамі, сагнуўшыся сярпом, вандруе залаты месяц.

Да ўваходу ў другі пакой запрашаюць намаляваныя над дзвярыма тры танцаўшчыцы — беларускія дзяўчаты ў прыгожых нацыянальных уборах. Вабіць там вока цудоўны беларускі арнамент, акаймляючы ўсе сцены пад столлю.

Ініцыятыва мастацкага афармлення памяшкання грамадскім спосабам нарадзілася ў пачатку бягучага года. Члены прэзідыума праўлення аддзела: Хведар Галёнка, Мікалай Данілюк і Віктар Швед, члены рады клуба: Валянцін Пацэвіч, Кастусь Сахарчук, Юрка Чарняўскі і актывісты аддзела: Кастусь Бандарук, Мікалай Бірылка, Павел Дзейкала, Кастусь Мазурук і Уладзімір Тафілюк у пачатку сакавіка г.г. прыступілі да працы. Саскрэблі са сцен папярэдняе маляванне і памалявалі сцены падкладовай фарбай. І вось тады прыступілі да працы нашы мастакі-аматары. Кастусь Бандарук намаляваў аднаго з рыцараў і знеахвоціўся да далейшай працы. Кастусь Мазурук — надзвычай працавіты чалавек — вырашыў, што калі ўзяўся, дык трэба вытрымаць да канца.

Тры месяцы працягвалася яго мастацкае творчае гарэнне. Пад маленькім пэндзлем ажывалі вялікія сцены памяшкання. Знаходзячыся пад уплывам вядомай палехаўскай мастацкай школы, мастакі якой пераносяць казачныя матывы, асабліва на сувенірныя шкатулкі, К. Мазурук адзін з гэтых матываў перанёс на сцяну. І трэба сказаць, што зрабіў гэта надзвычай удала, памастацку, дадаючы ад сябе многа цікавых дэталяў, упрыгожваючых усю карціну. Уклад працы мастака-аматара аграмадны. Заслугоўвае на пахвалу і той факт, што ён, аспірант-фізік, увесь свой вольны час аддаваў грамадскай дзейнасці.

Вялікія мастацкія здольнасці, асабліва ў арнаментальных дэталях, праявіў мгр інж. Мікалай Данілюк, намеснік старшыні прэзідыума праўлення аддзела.

Майстрам на ўсе рукі аказаўся др Хведар Галёнка: ён і маляваў, і змайстраваў шафкі для буфета, а таксама полкі для часопісаў. Інж. Мікалай Бірылка зрабіў праект і выканаў са свайго матэрыялу дасканалую металічную вешалку.

Трэба адзначыць, што ўклад грамадскай працы актыву варшаўскага аддзела БГКТ аграмадны. Складае ён некалькі дзесяткаў тысяч злотых.

Галоўнае праўленне БГКТ высока ацаніла ажыццяўленне гэтай ініцыятывы, прызнаючы найбольш адданаму актывісту, мастаку-аматару Кастусю Мазуруку сімвалічную ўзнагароду.

**Віктар Швед**

 

## А ШТО ДАЛЕЙ?...

У сваім журналісцкім падарожжы мы наведалі Локніцу ў Бельскай гміне над невялікай рэчкай пад такой самай назвай. Вёска гэтая налічвае больш 50 гаспадарак. Пра яе даўно ўжо мы пісалі.

Старшыню гуртка БГКТ у Локніцы Зіну Кучынскую сустрэлі дома.

— Чулі мы, што ў вас дружная моладзь, — пачынаем гутарку, і Зіна выходзіць з-за кроснаў, на якіх тчэ дываны ў „пераборы“.

— Моладзь у нас дружная і культурная. Ёсць больш дваццаці дзяўчат і юнакоў. Прыходзяць яшчэ дзяўчаты з калоніі, — кажа Зіна. — У мінулым годзе мы ставілі п'есы і новыя песні развучвалі. Весела было. Разгарнулі культурнае жыццё. У школе збіраліся на вечарынкі. Ездзілі нават з канцэртамі ў суседнія вёскі. Жанчыны, і тыя, як узяліся, дык не толькі арганізавалі гурток вясковых гаспадынь (КГВ), але і ўсялякія кулінарныя курсы. Узялася за іх арганізацыю Вера Міхальчук і дабілася свайго, выхадзіла.

— А што цяпер? У чым затрымка?

— Калі ў нашу школу перасталі хадзіць вучні, моладзь узяла школьны будынак у сваё ўладанне. Я і цяпер маю ключы. Але хто там цяпер пойдзе! Холадна. Няма чым у печах паліць. А тыя нарубленыя дровы, якія былі ў школе, даўно ўжо спалілі. Кінаперасоўка, і тая перастала да нас прыязджаць з Чыжоў. Хто ў такі холад выседзіць?!

Дырэкцыя прадпрыемства „Рух“ у Бельску была намерана ў школьным будынку арганізаваць клуб. Нават клікалі мяне і прасілі, каб я гэтым занялася. Вырабіла я тую кніжачку здароўя, усё як мае быць, заходжу, а яны ўжо ў гэтай дырэкцыі новае спяваюць. Хай вашы хлопцы і дзяўчаты пасадзяць кветкі, упарадкуюць панадворак, а то і платы трэба адрамантаваць. Тады мы супольна, хлопцы і дзяўчаты, узяліся за рамонт. Упарадкавалі пакойчыкі, зрабілі дэкарацыю, адрамантавалі плот, ды нават дрэўцы навокал будынка пасадзілі. Каб толькі адкрылі ў нашай вёсцы клуб, каб было так, як у іншых. Але дырэкцыя ўсё адмяніла, не захацела даць нам клубнае абсталяванне. („Хто ў такой дзюры будзе каву піць?“). І ўсё тады заняпала.

— Што тады намерана моладзь рабіць далей?

— Пэўна, зможам арганізаваць некалькі цікавых мерапрыемстваў. Думаем, што аддзел БГКТ у Бельску нам дапаможа арганізаваць сустрэчу з журналістамі „Нівы“ або з беларускімі літаратарамі, на якія людзі заўсёды прыходзяць. Калі б быў у нас клуб, то кожны вечар было б у ім шмат наведвальнікаў. А так калі-небудзь арганізуем забаву. Збірацца будзем па-ранейшаму па хатах. Прыйдуць хлопцы, то і пасняваем. Прыгожых дзяўчат многа. Аб гэтым можаце напісаць. Вось хаця б Ніна Сахарчук (наша прадаўшчыца) і яе сястра, якая вучыцца ў Бельску, Марыся Астапчук, ды і іншыя. Хлопцаў нашых трэба пахваліць за грамадскі пачын. Юрку Пракапюка (сына солтыса), Грышу Пятроўскага, Толіка Дудзіча.

Калі вярталіся мы ў Беласток, над Локніцай панаваў вячэрні спакой і сцішанасць. Парушалі яе час ад часу мужчынскія галасы ля крамы, у якую прывезлі ўдосталь свежага піва. Таптаўся на месцы змерзлы конь, гаспадар якога відаць, не рупіў дадому.

**Я. Цялушэцкі**

## Юрыдычная кансультацыя пры ГП БГКТ

**Ад новага года юрыдычны пункт, які дагэтуль дзейнічаў пры нашай рэдакцыі, будзе перанесены ў будынак Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства на вуліцы Варшаўскай 11. Там, у кожны панядзелак ад 10 да 11 гадзіны, наш шматгадовы юрыдычны кансультант Вінцук Склубоўскі будзе прымаць наведвальнікаў — членаў і сімпатыкаў БГКТ, якія патрабуюць юрыдычнай парады. Парады, як і раней, бясплатныя. Ветліва запрашаем!**

## СТАРАЖЫТНАСЦІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ



*Адзін з фрагментаў выстаўкі (іконы).*



*Вырабы народнага кавальства з усходняй Беласточчыны.*

Праз Беласточчыну спакон веку пераваліваліся кровапралітныя войны, якія разбуралі і спапялялі на сваім шляху ўсё самае каштоўнае, што стварылі на гэтай зямлі людскія таленавітыя і працавітыя рукі. Таму бясцэнную вартасць мае кожная дробязь з багатага мінулага нашага рэгіёна, якая якімсьці цудам захавалася на зямлі або ў зямлі.

Як паказала ўвачавідкі адкрытая 19 лістапада г.г. у Акруговым музеі ў Беластоку выстаўка **„Ахова помнікаў старажытнасці ў 30-годдзі Польскай Народнай Рэспублікі“**, усё ж такі значныя скарбы культуры з мінулых эпох захаваліся на Беласточчыне, і дзякуючы намаганням і клопатам народнай улады гэтае непрамінаючай вартасці багацце з піетызмам зберагаецца, карпатліва рэстаўруецца і вывучаецца. Выстаўку арганізавалі Акруговы музей у Беластоку, Ваяводскі кансерватар старажытнасцей і Бюро даследаванняў і дакументацыі старажытнасцей.

Як паведаміла нам кіраўнік выстаўкі мгр *Я. Гасціловіч*, у дзвюх выставачных залах аказалася каля 100 самых каштоўных экспанатаў з фондаў музеяў і 216 фотаграмаў, якія даволі шырока паказваюць працы па ахове старажытнасцей на тэрыторыі ваяводстваў Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ў галіне горадабудаўніцтва, архітэктуры, паркавых комплексаў, народнай матэрыяльнай культуры, археалогіі, першадрукарства і царкоўных старажытнасцей. Матэрыялы выстаўкі ў кандэнсаванай форме паказваюць творы чалавечай дзейнасці на гэтай тэрыторыі, пачынаючы ад 4 тысячагоддзя да нашай эры і па канец XIX стагоддзя нашай эры, г.зн. ахопліваюць 6 тысяч гадоў.

Нашага чытача на выстаўцы напэўна зацікавяць экспанаты і фатаграмы, якія адносяцца да межаў цяперашняга Беластоцкага ваяводства, між іншым, вынікі археалагічных раскопак у ваколіцах Драгічына і Мельніка на Надбужжы, на ўзбярэжжы ракі Нарвы, у Курашаве, Крупічах і Растолтах, экспанаты са славутага манастырскага комплекса ў Супраслі, багатая калекцыя старадаўніх іконаў, вырабы кавальскага рамяства, унікальная выразбленая ў дрэве іконка св. Ніла з ваколіц Орлі, узоры дзвюхасновавага ткацтва з Сакольшчыны і шэраг іншых экспанатаў і здымкаў.

Шкада толькі, што на выстаўцы не знайшлося месца хоць бы для ўрыўкавага паказу жыллёвага вясковага будаўніцтва, а таксама народнай разьбы па дрэву, якой ужо ад мінулага стагоддзя надзвычай багата і густоўна ўпрыгожвалі звонку свае дамы сяляне на абшары цяперашняга Беластоцкага ваяводства, асабліва на тэрыторыі паміж рэкамі Бугам і Нарвай. Гэтыя дасканалыя творы (шчыты, навугольнікі, падстрэшнікі, абрамаванні вокан, ганкі і г.д.), вычараваныя з дрэва пілой ды долатам народнымі самавукамі-мастакамі, з'яўляюцца вялікай каштоўнасцю матэрыяльнай культуры мінулага. На жаль, дагэтуль ніводная з устаноў па справах культуры ці па ахове старажытнасцей не занялася гэтай справай, не стварае архіва фотаздымкаў і дакументацыі, не клапоціцца аб тым, каб падрыхтаваць і выдаць спецыяльны альбом па гэтай разьбе. А гэтага надзвычай пільнага і важнага задання нельга адкладваць, бо разьба выканана на надта нетрывалым матэрыяле — дрэве, ды пашыраючаеся ў нашых вёсках мураванае будаўніцтва замяняе ранейшае драўлянае. Усё гэта на нашых вачах вядзе да паскоранага і беспаваротнага знішчэння гэтых непаўторных твораў народнай матэрыяльнай культуры. Гэтым трэба заняцца неадкладна і зараз жа!

**Ігнат Снарскі**
фота аўтара



*Кераміка з Надбужжа і Сувальшчыны з II стагоддзя нашай эры.*

**Беларуская літаратура** — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXXIV

**Заканчэнне.** Творчасць Алеся Гаруна належыць да адной з найцікавейшых з'яў у беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Вартасць яго паэзіі заключаецца ў яе арыгінальнасці і непаўторнасці. Нават не ведаючы такога, ці іншага гаруновага твора, цяжка было б яго прыпісаць якомусьці іншаму аўтару. У ніякім выпадку нельга памыліць яго вершаў з вядучымі ў перыяд „Нашай нівы“ паэтамі Янкам Купалам і Якубам Коласам. Гэтая „антыкупалаўская“ і „антыколасаўская“ тэндэнцыя адносіцца перш за ўсё да формы, а не да зместу вершаў, хаця і ў змесце паэзіі Гаруна не знаходзім той дамінацыі сялянскіх матываў, з якой маем дачыненне ў творчасці двух названых класікаў беларускай літаратуры. Багацце і прыгажосць літаратуры кожнага народа праяўляецца ў яе фармальнай і тэматычнай разнароднасці. Фетышызацыя стылю, прыёмаў, творчага метаду аднаго пісьменніка, спроба накідвання канцэпцыі гэтага пісьменніка ўсім іншым літаратарам — нават у тым выпадку, калі гэты пісьменнік з'яўляецца геніем, — безумоўна прывяла б да страшэннай спустошанасці ў данай літаратуры. Малыя праследвалі б вялікага і зрабілі б яго малым, не чынячы сябе вялікімі.

Гарун, несумненна, разумеў, што кожны пісьменнік павінен ісці сваім уласным шляхам. І такі шлях прабіваў ён і ў сваім цяжкім жыцці, і ў страшэннай беларускай дакастрычніцкай рэчаіснасці, і ў адсталай, у параўнанні з літаратурамі іншых еўрапейскіх народаў, беларускай літаратуры.

Мабыць, Гарун не меў строгай літаратурнай праграмы. Мабыць, не верыў у сваю паэтычную місію. Мабыць, не стараўся стаць ні летапісцам нядолі беларускага селяніна, ні плачкай над магілай нацыянальнага ўпадку Беларусі, ні бардам нацыянальнага адраджэння, ні прапаведнікам жыццёвага песімізму, ні песняром крайняга аптымізму. Аднак, у яго паэзіі выявіліся розныя тэндэнцыі і розныя схільнасці. Бо быў ён эмацыянальным чалавекам, у жыцці і творчасці якога адлюстраваліся розныя бакі і нацыянальнага і сацыяльнага лёсу беларусаў і розныя праявы яго ўласнага жыцця і тыповыя схільнасці яго натуры.

Нас у даным выпадку не цікавіць Гарун-дзеяч, а цікавіць Гарун-пісьменнік. Як літаратар Гарун не напісаў нічога такога, што ішло б у разрэз з беларускім інтарэсам, з патрэбамі працоўных, з інтарэсамі сучаснікаў паэта і нас, нашчадкаў. Пры гэтым зрабіў ён многае для развіцця беларускай літаратуры і культуры.

У творчасці Гаруна не знаходзім элементаў нацыяналістычных. У яго паэзіі няма напасцяў на які-колечы суседні ці далёкі народ. Наадварот, вершы паэта насычаны спачуваннем да беднага, пакрыўджанага чалавека незалежна ад яго нацыянальнай прыналежнасці.

Гарун не быў эстэтам, адарваным ад жыцця і патрэб людзей. Сваю паэзію трактаваў ён як шлях да людзей. І таму, нягледзячы на высокую мастацкасць яго вершаў, не знаходзім у іх празмернай скамплікаванасці, празмернага фармалізму, якія перашкаджалі б нават слаба адукаванаму чытачу зразумець іх сэнс, іх істоту. З другога боку, Гарун не ўпрашчаў, не прымітызаваў структуру сваіх твораў, не прыстасоўваў іх да найніжэйшых густаў, да крайняга інтэлектуальнага прымітыву чытача. Гарунова паэзія прымушала чытача вучыцца, узбагачала яго, уводзіла ў свет складанай мастацкай прыгажосці, той фармальнай прыгажосці, якую Максім Багдановіч называў пажыткам для душы. Не ідучы на повадзе прымітыўных густаў, не зніжаючы лёту верша да найбольш упрошчанага ўзроўню, Гарун уратаваў сваю паэзію ад хлопаманіі, гэта значыць, ад той тэндэнцыі і моды, якую прапагандавалі ў польскай і беларускай літаратуры тыя, хто дэклараваў сваю гарачую любоў да народа, але ніколі з гэтым народам не ўмеў поўнасцю атоесаміцца.



 

# ПРЫЗНАННЕ ВЕТЭРАНАМ

Аб ветэранах Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць у Польшчы, не забываюць і ў нас, і ў Савецкім Саюзе. У гэтым годзе, з нагоды XXX гадавіны з дня Перамогі над фашысцкай Германіяй савецкі ўрад узнагародзіў 240 ветэранаў, грамадзян нашай краіны, медалямі **„Тридцать лет победы в Великой Отечественной войне“.**

Сярод узнагароджаных ёсць дзесяць чалавек з Беластоцкага ваяводства, а сярод іх: **Мікалай Кірылюк,** даўнейшы салдат II Арміі Войска Польскага, а зараз старшыня Акруговага праўлення Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю (ЗБоВіД) у Беластоку, даўнейшыя салдаты Савецкай Арміі і Войска Польскага. **Сцяпан Грынчышын, Ян Анацік** і **Анатоль Панькоўскі,** а таксама **Антон Яблонскі — гаспадар з Суража, які разам з іншымі польскімі салдатамі ўзняў у Берліне польскі сцяг перамогі.**

Сярод узнагароджаных яшчэ знаходзяцца: намеснік старшыні Акруговага праўлення ЗБоВіД у Беластоку **Станіслаў Блох,** старшыня праўлення гарадскога аддзела ЗБоВіД у Беластоку **Альяш Федаровіч,** дзеяч ломжынскага аддзела ЗБоВіД — **Ян Карповіч** і журналіст Польскага Радыё ў Беластоку, даўнейшы афіцэр I Арміі Войска Польскага — **Кшыштаф Вуйтовіч.**

Медалі жыхарам Беластоцкага ваяводства перадалі прадстаўнікі Гродзенскага абласнога камітэта ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і ад яго імя ўручаў іх узнагароджаным старшыня Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу ў Беластоку — **Станіслаў Кудла.** Сардэчна віншуем усіх узнагароджаных! (вр)

# ГАЙНАЎКА ЎЗРАСТАЕ

Ад 30 красавіка 1976 года, згодна з планам, гайнаўскія СОП і ПЗУ будуць мець прыгожае супольнае трохпавярховае памяшканне паверхняй 900 м². Пабудову, якую выконвае пад кіраўніцтвам Л. Граматовіча дзесяціасабовая брыгада з бельскага камунальнага прадпрыемства, распачалі 24 ліпеня 1974 г. Калі мы іх наведалі — працавалі яны ўжо над заканчэннем скляпення. Хочуць (пакуль няма яшчэ вялікіх марозаў) як найхутчэй з гэтым справіцца, каб магчы перайсці да ўнутраных работ. Яшчэ да канца снежня гэтага года намераны падключыць цэнтральнае ацяпленне. Потым зробяць электраабсталяванне і будуць прымацца за заканчэнне і ўпарадкаванне пасобных пакояў. Пакуль што ўсё ідзе згодна з графікам. Дапамагаюць грамадскія пачыны.

Горш аднак з другой пабудовай, гэта значыць вялікага павільёна СДГ. Цягнецца яна ўжо, як паведаміў дырэктар гайнаўскага ВСС, штосьці каля чатырох год. Будуе тое самае бельскае прадпрыемства, але праца не спорыцца. Часта чагосьці не хапае. Каб толькі чагосьці — то яшчэ паўбяды. Але бывае і так, што не ўсе рабочыя з'яўляюцца на месцы працы, а гэта ўжо несур'ёзна. А засталося ўжо ж нямнога. Варта было б неяк узяцца і закончыць да канца гэтага года, як наказвае дагавор. З боку ВСС усё ж ужо зроблена. Нават прадаўшчыцы, і тыя ёсць. Крама ж гэтая многа паможа і жыхарам і кіраўніцтву. Хіба ж не прыемней зайсці ў светлае памяшканне, чым таўчыся ў старых, параскіданых па цэлым горадзе, якія зусім не нагадваюць прадавецкіх залаў, а нейкія бары з амерыканскіх вэстэрнаў, дзе прайшла магутная бойка. Ды і другая справа. Адкрыццё гэтага павільёна вызваліла б адно, у даволі яшчэ добрым выглядзе, памяшканне, у якім дырэкцыя ВСС хоча ўладзіць прыемнае кафэ. Усё ўжо падрыхтавана, чакаюць толькі заканчэння пабудовы. Дык за працу!

**М. Шаховіч**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

[БАЛАДНАЯ]




*А ў Марысі хата на помості,*
*хата на помості,*
*прыехало тры козакі ў гості,*
*прыехало тры козакі ў гості.*
*Одін кажэ: „Я Марысю люблю“,*
*„Я Марысю люблю“,*
*другі кажэ: „Я Марысю возьму“,*
*другі кажэ: „Я Марысю возьму“.*
*Трэці кажэ: „На ручнічку стану“,*
*„На ручнічку стану“.*
*Трэці кажэ: „На ручнічку стану“.*
*Заболела Марысі голоўка,*
*Марысі голоўка,*
*захотела Марыся трузелья,*
*захотела Марыся трузелья.*
*Озваўся одін козак: „Я маю тры коні,*
*Я маю тры коні,*
*Одным конем до мора доеду,*
*одным конем до мора доеду.*
*Другім конем морэ перэеду,*
*морэ перэеду.*
*Трэтім конем трузелье достану*
*трэтім конем трузелье достану“.*

*Ой, стаў козак трузелье копаті,*
*трузелье копаті,*
*стала ёму зозуля коваті,*
*стала ёму зозуля коваті:*
*„Не копай ты, козачэ, трузелья*
*козачэ, трузелья,*
*бо ў твое Марысі дзісь веселье,*
*бо ў твое Марысі дзісь веселье“.*
*Скочыў козак до Марысі ў хату,*
*до Марысі ў хату:*
*„Ой, зайграйте, музыканты, вальца,*
*Ой, зайграйте, музыканты, вальца,*
*Ой, зайграйте, музыканты, вальца,*
*музыканты, вальца,*
*а я пойду з Марысяй у танцы,*
*а я пойду з Марысяй у танцы“.*
*Левой ручкой Марысеньку водіт,*
*Марысеньку водіт,*
*правой ручкой остру шаблю носіт,*
*правой ручкой остру шаблю носіт.*
*Ой, так тіхо диброва шумела,*
*диброва шумела,*
*ешчэ тішэй голоўка злетела,*
*ешчэ тішэй голоўка злетела.*

Ад Веры Паповай, 1932 г. нараджэння, г. Беласток, якая навучылася гэтай песні ад сваіх матулі, бабулі і цёткі, што жылі ў вёсцы Гнецюкі каля Заблудава, запісаў 20 кастрычніка 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Л. Панько.

# ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ М. Скепка

Селянін Мікалай Скепка з Новага Ляўкова (гміна Нараўка) перш за ўсё вядомы як добры жывёлавод. Гадуе кароў і авечак. Для рагатай жывёлы пабудаваў цагляны кароўнік на 10 галоў быдла. Мае дастатковую колькасць канюшыны і сена. Сенажаці ў яго зараз жа за стадолай у даліне над ракой Бабpоўкай. Ужо ідзе чацверты год, як ляўкоўскі гаспадар гадуе 30 авечак, у тым ліку некалькі пародзістых бараноў. Намераны ён яшчэ павялічыць стада гэтай карыснай хатняй жывёлы не менш як на 10-15 штук. За добры догляд бараноў і воўну мае найбольшыя даходы. Воўны пасля кожнай стрыжкі збіраецца 150 і больш кілаграмаў.

На працягу многіх гадоў ляўкоўскі хлебароб вядзе доследныя палеткі з бульбай. Дзяржаве прадае па 20 000 кілаграмаў гэтага другога хлеба.

Вопытны гаспадар з Ляўкова рацыянальна гаспадарыць на сваіх зямельных угоддзях. Ведае, што да чаго. У сваёй паўсядзённай рабоце абапіраецца на дапамогу агранома.

Іншым любімым яго заняткам з'яўляецца пчалярства. Пчол гадуе ён 17 гадоў.

Працавіты селянін (сам вопытны муляр) заканчвае пабудову мураванага дома на шэсць пакояў. Будзе ў ім цэнтральнае ацяпленне і вада з крана. Перад домам стане яшчэ жалезная агароджа на фундаменце і шырокая брама.

Мікалай Скепка атрымаў значок „1000-годдзе Польскай дзяржавы“ за арганізаванне і актыўны ўдзел у грамадскіх пачынах пры пабудове дарог і электрыфікацыі вёскі.

Выконвае ён адну грамадскую функцыю — з'яўляецца членам калегіі, якая ў гміне вырашае справы пакарання вінаватых.



*Перадавы гаспадар з Новага Ляўкова Мікалай Скепка.*

У 1959 годзе Мікалай Скепка вярнуўся на пастаяннае жыхарства ў Новае Ляўкова з Беластока, дзе працаваў кадравіком у адной арцелі. Ён кажа: „Было тады штосьці са мною такое: бяру ў рукі хлеб і раптам у галаву прыходзіць нейкая туга за роднай вёскай, за полем... Узнікаюць перад вачыма чорныя з адлівам пласты глебы, зялёная росная рунь, налітыя сонцам і сокамі шчодрай зямлі вусатыя спелыя каласы. Не мог я жыць без вёскі і таму добраахвотна сплачваю „доўг“ за споўненую мару. Хачу сплаціць яго як мага лепш“.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Новы мураваны дом Мікалая Скепкі на шэсць пакояў.*

# НОВЫ ІНТЭРНАТ У БЕЛЬСКУ

У Бельску многа моладзі ў школьным узросце. Відаць гэта выразна ў канцы школьнага года, калі вучні раз'язджаюцца па дамах.

І школ у Бельску нямала: два агульнаадукацыйныя ліцэі, тэхнікумы — эканамічны і сельскагаспадарчага рахункаводства, медліцэй, прафесіянальныя школы і некалькі пачатковых.

Вялікі працэнт бельскіх вучняў — з навакольных і адлеглых вёсак, а нават з Гайнаўкі, Сямяціч і іншых гарадоў. Многія з іх зімой, а некаторыя і круглы год, жывуць на прыватных кватэрах, не заўсёды ў адпаведных умовах.

І вось у Бельску ў апошні час папраўілася сітуацыя з кватэрамі для вучняў. Быў аддадзены ў карыстанне вялікі чатырохпавярховы інтэрнат-бурса, пабудаваны каля Відаўскай вуліцы насупраць Эканамічнага тэхнікума. У ім пасяліліся звыш пяцісот вучняў. Як прыемна было глядзець на радасныя твары школьнікаў, якія першы раз пераступілі парог інтэрната. А цешыцца сапраўды было чым. Пакоі ў інтэрнаце вельмі прыгожыя. Абсталяваны густоўна і практычна.

Аб тым, каб заўсёды было тут прыемна, павінны старацца самі жыхары інтэрната.

**В. С.**

# Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Сын Н. загінуў у няшчасным выпадку ў час працы на прадпрыемстве. Н., яго матка, атрымала сямейную пенсію і аднаразовую кампенсацыю 20 тыс. злотых. Яна лічыць, што яе сітуацыя незалежна ад гэтага значна пагоршылася. Ці можа яна патрабаваць ад брыгадзіра, які за тое, што выклікаў выпадак, быў прыгавораны судом на турэмнае зняволенне, кампенсацыі ў размерах той шкоды, якая была ёй фактычна нанесена?

АДКАЗ: За шкоды, нанесеныя працаўнікам (а ў выпадку іх смерці — іх сем'ям), калі яны паўсталі на рабоце, адказвае прадпрыемства паводле ўстаноўленых норм. Сямейную пенсію ўстанаўлівае ЗУС у залежнасці ад заработнай платы, якую атрымоўваў пацярпеўшы. Нават калі б кампенсацыя, выплачаная прадпрыемствам, і пенсія не пакрывалі поўнасцю шкоды, няма магчымасці патрабаваць далейшай кампенсацыі. Асабліва няма магчымасці патрабаваць кампенсацыі ад працаўніка прадпрыемства, які выклікаў няшчасны выпадак. Усё, што належыцца па закону, выплачвае прадпрыемства, а працаўнік гэтага прадпрыемства, які выклікаў шкоду, адказвае толькі перад прадпрыемствам, якое можа ад яго патрабаваць кампенсацыі за шкоду, нанесеную па яго віне прадпрыемству.







Дарагое „Сэрцайка"! Я замужняя, у мяне двое дзяцей. Жылі мы згодна. Калі я захварэла і ляжала ў бальніцы, муж апекаваўся дзяцьмі, наведваў мяне. Калі я выйшла з бальніцы, лекар сказаў, што патрэбна мне санаторнае лячэнне, і я завагалася. Столькі ўжо часу муж сам з дзяцьмі. Але ён катэгарычна заявіў, што я павінна ехаць, здароўе найважнейшае. І я паехала. Сумна вельмі было ў першыя дні, муж пісаў часта, напамінаў, каб аб здароўі дбала. Але вось тут зацікавіўся мной мужчына, намнога старэйшы за мяне, ужо разведзены. Ён вясёлы, жартаўнік — прыемна праводзіла з ім я вольны час. І стаў ён мне блізкім, я яго чакала, выглядала. Сэрца дрыжэла, калі прыходзіў. Мігам праляцеў час побыту і трэба было вяртацца. Абяцаў, што прыедзе ў наш горад. Так і было. Спаткаліся. Жыў у гасцініцы. Бегала я да яго, хаваючыся перад мужам і знаёмымі. Цяпер піша мне пісьмы, хаваюся я з імі ад мужа, ды стараюся каб не паказаць па сабе таго, што ў душы накапілася. Ведаю, што дрэнна раблю, але сама не магу з гэтым справіцца, усё аб ім думаю. „Сэрцайка", памажы мне!

**Аня з Б.**

Аня! Павінна ты як найхутчэй парваць з гэтым мужчынам. Ты закахалася. Разведзены, намнога старэйшы, сумеў прыманіць да сябе цябе маладую. Яму што, а ў цябе сям'я — добры муж і каханыя малышы. І калі ты будзеш прадаўжаць з ім кантакт надалей, дык зруйнуеш сваю сям'ю. Пакуль не позна, зрабі ўсё, каб яго забыць. Прысвячай больш часу дзецям, мужу, які столькі сэрца аказаў, калі ты хварэла.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

*Сніцца мне, што плыву я на караблі. Раптам пачынаецца шторм. Вялізныя хвалі. Мне страшна. Нечакана наш карабель ператвараецца ў вадалёт. Але вось перад намі нейкая вельмі стромкая скала. Сцяна яе амаль вертыкальная і мне здаецца, што ўзяць яе будзе немагчыма. Тым часам вадалёт ператвараецца ў нейкі касмічны карабель. Ён набліжаецца да вяршыні скалы. Баюся: што будзе, зараз жа ён зваліцца... Але ракета ўпэўнена і спакойна ўваходзіць на вяршыню. Прачынаюся.*

*К. М.*

Справа тут наогул круціцца вакол вашага будучага шлюбу (карабель). Нехта перашкаджае вам у гэтым, а вы прыкладаеце шмат намаганняў, каб перамагчы ўсё. Пагражае вам небяспека, цяжкія выпрабаванні, але чакае карыснае заканчэнне (шторм). Галоўнае, што вы ўзыйшлі на вяршыню скалы, нягледзячы на стромкія сцены (перашкоды). І гэта вырашае справу на вашу карысць.

**Астрон**



## Кутоk практычных ведаў




### Кнэдлі

Каб зрабіць смачныя кнэдлі на 4 асобы, трэба ўзяць: 1 кг сыпкай белай бульбы, 2 шклянкі мукі-крупчаткі, 2 яечкі, кавалак дражджэй велічынёю валошскага арэха, няпоўную чайную лыжку солі.

● Абабраную і спаласнутую бульбу зварыць, сочачы, каб яна не разварылася. Адцадзіць, добра абсушыць і адразу ж прапусціць праз мясарубку. Калі бульба крыху астыне, дадаць да яе муку, расцертую ў сухім стане з дражджамі, зрабіць у сярэдзіне ямку, убіць яечкі, дадаць соль і замясіць цеста.

● На дошцы, пасыпанай мукой, раскатваць валікі дыяметрам 4 см, наразаць даволі тоўстымі кавалкамі.

● Пасля гэтага з нарэзаных тоўстых кружкоў рабіць на далоні аладку, якую можна змазаць крыху растопленым маслам.

● У сярэдзіну гэтай аладкі класці фарш, добра залепліваючы яе.

● У пасыпаных мукой далонях рабіць кнэдлі ў форме шарыкаў і класці іх на пасыпаную мукой дошку.

● Варыць у вялікай колькасці пасоленага кіпеню.

Чым фаршыруем кнэдлі?

Начынкай для іх могуць служыць усе свежыя ці (цяпер) марожаныя фрукты, як, напрыклад, слівы, вішні, абрыкосы. З іх спачатку трэба павымаць костачкі, і ў большыя фрукты замест костачак насыпаць цукру, вішні ж трэба проста абсыпаць цукрам. Можна таксама выкарыстаць пры гэтым густое павідла са сліў або вішань.

Хто любіць кнэдлі ў больш вострай версіі, можа зрабіць да іх наступны фарш:

**грыбы** — тушаныя з соллю і перцам, а пасля перасмажаныя з цыбуляй і 2-3 лыжкамі цёртай булкі;

**капуста** — звараная кавалкамі, пасечаная, перасмажаная на тлушчы з цыбуляй, перцам і папрыкай;

**варанае мяса** — прапушчанае праз мясарубку, перасмажанае з тлушчам, цыбуляй і невялікай колькасцю пячурыц;

**розныя рэшткі вяндліны** — як вышэй мяса;

**тварог** — расцерці з невялікай колькасцю тлушчу, пасечанай цыбулі ці кмену, соллю і перцам.

Кнэдлі з салодкімі фаршамі можна падаць толькі пасыпаныя цукрам, палітыя маслам і пасыпаныя цукрам, або палітыя бітай смятанай.

Вострыя кнэдлі можна паліць маслам з цёртай булачкай. Можна таксама паліць кнэдлі падсмажанай капчонай грудзінкай, або густой добрай смятанай.

**Гаспадыня**






Месяц назад ля дунайскай пераправы загінуў намеснік камандзіра іх батальёна капітан Батаў. Хоць і нядобра пра нябожчыка думаць благое, але быў ён вельмі крыклівы і не дужа справядлівы, гэты афіцэр. Аднойчы, яшчэ ў Трансільваніі, здарылася так, што батальён затрымалі дзве нямецкія самаходкі, замаскіраваныя ў вёсцы. Прамой наводкай яны з паўгадзіны расстрэльвалі пяхоту, як заўжды, па нямецкаму звычаю, не шкадуючы сваіх снарадаў. Да вёскі было якіх, можа, кіламетра паўтара, падбіць тыя самаходкі з саракапятак нечага было і думаць: а іншай артылерыі блізка не было, наступленне спынілася. Роты залеглі за насыпам уздоўж дарогі, чакаючь, што вырашаць камандзіры.

І тады гэты Батаў выклікае ўзводнага ПТА лейтэнанта Пішчука і загадвае нарысях выскачыць з гарматай з-за насыпу, пад'ехаць да грушы, што стаяла ў полі якраз пасярэдзіне між дарогай і вёскай, і прамой наводкай расстраляць самаходкі. Пішчук быў малады, не дужа спрактыкаваны лейтэнант, спрачацца з начальствам не ўмеў, сказаў толькі: „Ёсць!" — і пабег да разлікаў.

Калі ж ён аб'явіў разліку задачу, хлопцы апусцілі насы. Зірнуўшы хоць раз на поле, кожны з іх адчуваў, што жыць засталося некалькі хвілін. Да той грушы добрых 800 метраў, — паспрабуй дабярыся да яе па раллі на прыцэле ў дзвюх самаходак. Лейтэнант аб'явіў загад і марудзіць: сам ведае, што справа дрэнь, і невядома, на што спадзявацца.

І тады Ваня Шчарбак падхапіў свой аўтамат, узяў яшчэ ў Кеклідзе супрацьтанкавую гранату, скінуў шынель і — у трубу пад насыпам. На тым баку ён па канаве прашмыгнуў да разоры ў палетку і па ёй хуценька папоўз да вёскі.

Увесь батальён глядзеў з-за дарогі на гэты адважны ўчынак Івана Шчарбака. Поўз ён доўга, прыпыняўся, адпачываў. З вёскі, пэўна, яго не бачна было, бо самаходкі зрэдку білі па насыпе, а яго не чапалі. На Івана шчасце, нямецкай пяхоты ў вёсцы відаць не было, і ён, дапоўзшы да ваколіцы, схаваўся недзе за белымі, скрозь у матках чырвонага перцу, хаткамі.

Іван знік у вёсцы і доўга не падаваў ніякіх адзнак жыцця. Самаходкі зрэдку лупілі па гасцінцы, паранілі камандзіра шостай роты, аднаго сувязіста. І раптам у вёсцы выбух, і з-за хат валіць дым. Самаходка загарэлася, а другая, пэўна ўчуўшы ліха, загыркатала маторам і падалася прэч за ваколіцу. Хлопцы павылазілі на дарогу, пасля па полі кінуліся да будынкаў. Саракапятчыкі прычапілі гарматы да перадкоў і таксама памчалі туды. І вось падкатваюць яны праз гароды да невялічкага садка, дзе дыміць самаходка, і бачаць: на паграбцы, у якіх хаваецца ў венграў віно, сядзіць іхні Іван, бінтуе сабе руку і лае фрыца, які, уцякаючы, усё ж драпнуў яго куляй.

Вось такі быў Ваня Шчарбак.

Ён не дужа любіў кніжную навуку, скончыў усяго толькі шэсць класаў, але ў працы і людзях разумеў шмат. Калі ён капаў акоп, дык ніхто не хітрыў, не валыніў, як кажуць — усе заражаліся ягонай працавітасцю. А калі хто часам і ленаваўся, дык Іван клікаў таго і казаў: „Падпрагайся. Буду цябе лячыць ад гультайства. Я — выкідаць, ты — падбіраць". Тады ўжо таму хлопцу даводзілася папацець.

І вось неяк бязглузда Цімошкін страціў яго. Вядома, ён, можа, яшчэ і жывы, можа, ён пайшоў іншай дарогай, але хлопец не мог змірыцца ў душы, што Шчарбака няма. Яму было вельмі самотна без сябра ў гэтым шляху. Праз кожныя пяць хвілін ён азіраўся, прыслухоўваўся, думалася: авось, дзе-небудзь пакажацца з цемры яго постаць. Цімошкін усё болей шкадаваў, што паддаўся Блішчынскаму і не пайшоў тады па Шчарбаковым следу, можа б адшукаў дзе яго. Але ж след хутка засыпала, а тады, калі ён яшчэ быў відзён, была і надзея, што Іван хутка прыйдзе.

Снег перастаў церушыць, наўкола пасвятлела. Мароз памацнеў, вецер шкуматаў полы шыняля, і калені дранцвелі ад сцюжы. Твару свайго Цімошкін, здаецца, не адчуваў, можа адмарозіў, здаровую правую руку хаваў за пазуху, параненая ж зайшлася і дужа балела. Белы зімовы прасцяг усё шырэй рассцілаўся навокал, выставіўшы як напаказ усе чорныя плямы зямлі, быльнёг, вінаграднікі, адзінокія абрысы дрэў. І толькі далячынь на краявідзе пад цёмным навіслым небам тулілася ў змроку, і нідзе не праглядвала ніякіх адзнак месяца.

Сляды Блішчынскага ў доле сталі відаць лепш. Яны прывялі хлопца да нейкага землянога вала ў полі, які бялеў у прыцемках роўнай хрыбцінай і бег некуды ўдалячынь. Блішчынскі, як гэта відаць было па слядах, узлез на яго, пэўна, агледзеўся і пасля, збегшы, пайшоў уздоўж вала. Цімошкін быў знямажаны і на вал не палез, а паціху пайшоў у той бок, куды павярнуў зямляк.

Праз нейкі час наперадзе сталі відаць прысады, між якіх тут пралягала дарога. Баючыся, каб не трапіць у якую бяду, Цімошкін паціху выходзіў з-за вала. Наўкола ўсё было ціха — глыбокая зімовая ноч у белыя пялёнкі спавіла абшар. Ля дарогі ў канаве ляжаў на баку перакулены аўтамабіль, ней-

З украінскага гумару

# Пажартаваў

Падумаць толькі — дзесяць гадоў мінула! Як хутка ідзе час! Ты еш, еш... Не саромся! Што праўда то праўда —у мяне не дужа багаты стол. Нядаўна мэблю купіў у крэдыт... Усё, што на стале, на астатнія купіў. Але ты еш; чаго відэлец адклаў? Гэта ж я табе так сказаў, па-сяброўску. Я да таго вяду, што іншы на тваім месцы еў бы ў гасцях не так, як ты — аж за вушамі трашчала б... А ты сціплы чалавек. Чаго ты зноў відэлец адклаў? Я ўжо сказаў, што я гэта без усякіх намёкаў...

А дзе працуеш цяпер? У навукова-даследчым? Дысертацыю абараніў? Ну, малайчына! Шчыра за цябе рады. Ніколі б не падумаў, што ты на такое здатны. Аказваецца, і ты можаш нечага дасягнуць. Памятаеш, як мы ў інстытуце смяяліся з тваіх выступленняў? Тады ты не мог і двух слоў звязаць, а цяпер дысертацыю абараніў. Ну чаго, чаго ты крывішся? Што з таго, што не было ў цябе таленту? Не ўсе яго маюць, а жывуць. І не блага жывуць. Чаго ты так пабялеў? Як у цябе са здароўем? Мо п'еш багата? Ды прызнайся... Вунь і рука трымціць: віно на абрус выліў.

А жонка ў цябе хто? Ніна? Нінка з нашага курса? Памятаю. Ну і даў! Баявая была! Толькі не верыцца, што цяпер яна добрая гаспадыня і пяшчотная жонка. А калісьці ў інстытуце шмат хто з нашых хлопцаў да яе заляцаўся. І я аднойчы з ёю цалаваўся... Няўжо не ведаў?! Чаго ж ты ўскочыў? Я ж табе па-добраму, па-сяброўску... Пажартаваў. Не цалаваў я яе. Толькі ў кіно запрасіў, а яна адмовілася.

Стой! Ты куды! Пабег! Нават не развітаўся. Дзіўны чалавек. Жартаў не разумее. Памятаю, ён і ў інстытуце такім быў. Дзівакам!

**Уладзімір Заяц**



*— За тое, што ты зноў курыш мае сігары, віскі ты сёння ўжо не атрымаеш...*

### ЗГОДА

— Слухай, Гапка, ты не зможаш пазычыць мне сто злотых? Заўтра я табе аддам.

— Калі ласка. Але запамятай: калі заўтра не аддасі, дык я табе не пазычу больш ніводнага граша.

— Добра. Тады давай дзвесце злотых.






З народнага

## ВОЎК І ВОЖЫК

*Ішоў праз пушчу Воўк аднойчы*
*з дарожнай кайстрай за плячыма.*
*Ў яго спытаўся Вожык:*
*— Воўча!*
*Куды ты з роднае лагчыны?*
*— Ат! —*
*адказаў Сівы панура, —*
*няма тут жаднага спакою.*
*З мяне садраць гатовы шкуру*
*за шкуматок якога лою.*
*А да авечак —*
*ані блізка, —*
*усюды варта і сабакі.*
*Адны маслы, адны агрызкі*
*мне дастаюцца, небараку...*
*Пайду шукаць жытло такое,*
*дзе больш мяне не будуць ганіць...*
*— А зубы ты бярэш з сабою*
*ці пакідаеш нам на памяць?!*
*— Ды што ты, Вожычак,*
*гаворыш?*
*А як бы мог я жыць бяззубым?*
*— Ад іх жа, Воўча, ўсё і гора,*
*яны табе рыхтуюць згубу...*

**Уладзімір Дубоўка**

### СТАТУЭТКА

— Вы гаворыце, гэта статуэтка са слановай косці? Дык гэта ж самы сапраўдны фарфар!

— Значыць, у слана былі ўстаўныя біўні.

### ЖАНІХ

— Я чула, што Іван ажаніўся. Як, па-вашаму, з кахання ці з разліку?

— І тое і другое. Дзяўчыну ён ўзяў з разліку. Грошы — з кахання.

### ЗДАРЭННЕ

Швейцар рэстарана пагрузіў трох падвыпіўшых кліентаў у таксі і тлумачыць шафёру, куды іх адвезці:

— Гэты — справа — жыве на вуліцы Ліпавай, гэты — у сярэдзіне — на вуліцы Грунтовай, а гэтага — злева — адвязі на вуліцу Вясёлую.

Праз паўгадзіны шафёр вярнуўся назад з усімі пасажырамі.

— Што здарылася? — здзівіўся швейцар.

— Выплумач мне ўсё спачатку, куды каго везці: на крутым паваpоце яны ўсе перамяшаліся...

### ПАСПЯШАЎСЯ

— Далучаюся да думкі Івана Іванавіча.

— Але ж Іван Іванавіч яшчэ не выступаў.

— Прабачце. Тады я выкажуся пасля яго выступлення.

### НЕКАРАНАВАНАЯ СЛАВА

З аднаго габраўца кпілі, што пра яго земляко ў ходзіць многа анекдотаў.

— Праўда, — адказаў ён. — Анекдоты расказваюць толькі пра славутых людзей.



**„Усё ў руках чалавека", — думаў хабарнік, пералічваючы грошы.**

**„Мяса шкадлівае!" — агітаваў вегетарыянец, трапіўшы ў рукі людаедаў.**



*— І ты яшчэ будзеш цвярдзіць, што гэта не тваё дзіцё!*

### КАСТУСЬ

Кастусь сядзіць з Ленкай і Бажэнкай на лавачцы. Раптам абедзве яго пытаюць:

— Скажыце, дзядзька Кастусь, каторая з вас прыгажэйшая?

— Э-э, дзяўчаткі, я вам гэтага не скажу.

— Чаму?

— Ленка пакрыўдзіцца.

### ЦІКАЎНЫ

Маці гаворыць сыну:

— Сынок, табе ж ужо пайшоў трэці годзік.

— А куды ён пайшоў?




### ДВА ЛАЙДАКІ

**— Ты што робіш?**

**— Нічога.**

**— А ты што?**

**— Яму дапамагаю.**

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Аляксандра Грыгарука з Плюціч, Ані Троц з Рудут, Елі Парфенюк з Яцэвіч, Ірэны Васілюк з Галадоў, Галены Яканюк і Галіны Ювзюк з Барысаўкі, Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч змяшчаем песню:

## MÓJ, TYLKO MÓJ

**słowa: Andrzej Bianusz**
**muzyka: Jarosław Kukulski**
**śpiewa: Anna Jantar**

Wzrok rozbawiony, uśmiechnięta twarz
Tyle dla mnie, co dla innych masz
Mijasz mnie, nie patrząc — a to źle
Raz się obejrzyj, zobacz mnie

Będziesz mój, mój
Ty jeszcze nie wiesz o tym, że
Będziesz mój, mój
Kto rozgarnięty, ten już wie, dawno wie
Ale ty, ty
Musisz się o drzewo huknąć któryś raz
Nim spostrzeżesz, że przed tobą gęsty las
Raz rozumiesz, raz nie
— lepiej zostaw to mnie
Będziesz mój, mój
Ani się nie obejrzysz jak
Będziesz mój, mój
I sam się zdziwisz, że to tak, że aż tak
Wpadłeś ty, ty
Ty, co dzisiaj tak nie patrząc, mijasz mnie
Popatrz wreszcie raz, obejrzyj się
Wszystkie atuty, wszystkie szanse masz
Wiesz o sobie, możliwości znasz
Na świat patrzysz z góry, niby widz
Wiesz wszystko czyli nie wiesz nic
Będziesz mój, mój...
itd. aż do
Ty, co dzisiaj tak, nie patrząc, mijasz mnie
Jeszcze nie wiesz
Jeszcze dzisiaj nie



*Без слоў.*




### АБЕД У БАЦЬКІ ШЭРЛОКА ХОЛМСА

За абедам у праслаўленага аўтара гісторый пра Шэрлока Холмса — Артура Конан-Дойла сядзеў гумарыст Джэром Джэром. Калі была пададзена першая страва, госць, хітра ўсміхнуўшыся, сказаў:

— А ў вас, паважаны сэр, аказваецца, новая служанка, і, відаць, яна прыехала з глухой правінцыі...

— Як гэта вы здагадаліся?

— Вельмі проста — па слядах пальцаў на краях талеркі!

### САБРАТ НЕСІ

Ці хаваецца ў нетрах возера Лох-Нес пачвара ці не, нікому дагэтуль дакладна не вядома. Адзіныя, хто ў гэтым ні капелькі не сумняваецца, — гэта ўладальнікі атэляў і рэстаранаў, размешчаных паблізу возера. Лёгка зразумець вострую зайздрасць манапалістаў лох-нескага страшыдла, калі яны даведаліся, што ў Несі з'явіўся канкурэнт у далёкай Танзаніі. Там нехта дзесьці калісьці (але неаднакратна!) бачыў страшнага монстра: „двухногага, дзесяціпальцага з адным маленькім рогам, адным вухам і адным вокам, якое свеціцца ў цемры"!

Фатаграфій пачвары пакуль зрабіць не ўдалося, сляды ж, ды яшчэ з выразным адбіткам дзесяці (!) пальцаў, таксама не трапляліся. Але танзанійскія атэлеўладальнікі не сумуюць: яны вераць, што рана ці позна фантастычны звер трапіць у пастку, а да той пары частуюць турыстаў „дакладнымі" апісаннямі яго звычак.




**Досыць вучыцца на памылках! Час рабіць з іх дысертацыю.**